# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 13 (839) ГОД XVII БЕЛАСТОК 26 САКАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## КАНФЕРЭНЦЫЯ У ДУБРОВЕ

6 сакавіка гэтага года адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя аддзела БГКТ у Дуброве. На канферэнцыю прыбыло дваццаць дэлегатаў з гурткоў і прадстаўнікі Галоўнага праўлення. Вёў яе і чытаў даклад Аляксандр Мазалеўскі з Дубровы. У гэтым дакладзе гаварылася, што зараз у павеце працуе 9 гурткоў БГКТ у мясцовасцях Дуброва, Вострава, Грабені, Крапіўка, Масціха, Сынкоўцы, Хілімоны, Ялава і Ячна. Усе яны налічваюць 152 члены, г. зн. на 21 член больш, чым у мінулай кадэнцыі. Арганізацыя павялічыла лік членаў амаль у два разы, але частка іх выехала ў іншыя ваяводствы нашай краіны на работу. Наступілі прыкметныя змены ў сацыяльным складзе. Раней да БГКТ належалі амаль выключна сяляне, зараз каля 30% членаў складае інтэлігенцыя, а асабліва многа ёсць моладзі. Уся арганізацыя надта маладая — звыш 65% членам не споўнілася яшчэ 30 год. Многія члены БГКТ належаць да іншых грамадскіх арганізацый і да сельскагаспадарчых гурткоў, а часта нават узначальваюць іх. Праўленне аддзела станоўча ацэньвае гэтую з'яву таму, што сельскагаспадарчы характар Дуброўскага павету патрабуе ўдзелу ўсіх членаў ва ўдасканальванні форм гаспадарання. Удзел нашай арганізацыі ў развіцці сельгасвытворчасці быў мала адчувальны.

Падкрэслівалася неабходнасць пашырэння культурна-асветнай працы. На працягу апошніх 2 год арганізавана некалькі канцэртаў эстрады «Лявоніха», 8 аўтарскіх сустрэч, 8 фільмаў, якія карысталіся вялікай папулярнасцю. На Дуброўшчыне выступалі харавыя калектывы з Гарадка і Бельска, а таксама драмгурток з вёскі Сухінічы Сакольскага павету. Насельніцтва ўспрыняло гэтыя выступленні з энтузіязмам. Ажывіліся некаторыя гурткі. Гурток у Крапіўне пачаў рыхтавацца да мастацкай самадзейнасці. Без вопыту і належнай інструктарскай дапамогі першыя спробы цяжкія. Вялікае зацікаўленне выклікалі беларускія фэстыны ў Ячне. Удзел у іх прымалі жыхары многіх навакольных вёсак.

Працяг на стар. 4


*Беластоцкія кантрасты.* *Фота Цаф — Р. Сянько*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 7 сакавіка ў Мілейчыцкай пачатковай школе адбыўся міжшкольны конкурс на беларускую песню. Найлепшыя спевакі прымуць удзел у фінальным аглядзе «Беларуская песня — 72» у Беластоку. Усе ўдзельнікі атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Арганізатарам конкурсу з'яўляецца: аддзел асветы павятовай рады нарадовай у Сямяцічах, акруговы метадычны цэнтр куратарыі асветы і Беларускае таварыства.

■ Справаздачна - выбарныя канферэнцыі аддзелаў БГКТ 11 і 12 сакавіка адбыліся ў Варшаве, Беластоку (павятовая) і Бельску Падляшскім. На іх была падсумавана дзейнасць за мінулую кадэнцыю, накрэслены далейшыя напрамкі працы, выбраны новыя праўленні аддзелаў і дэлегаты на VII з'езд БГКТ, які адбудзецца ў верасні 1972 года. Справаздачы аб спамянутых канферэнцыях надрукуем у наступных нумарах нашага тыднёвіка.

■ 12 сакавіка ў памяшканні Галоўнага праўлення беластоцкі (павятовы) аддзел БГКТ арганізаваў конкурс на беларускую песню для дарослых. Выступілі 44 чалавекі. Удзельнікі конкурсу прадставілі вялікую колькасць народных, фальклорных песень. Многія атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Найлепшыя спевакі будуць выступаць у красавіку ў Беластоку на фінальным аглядзе. Конкурс гэты адбываецца пасля справаздачна-выбарнай канферэнцыі аддзела і быў яе мастацкай часткай.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ таксама 12 сакавіка арганізаваў конкурс на «Беларускую песню — 72». Усім удзельнікам былі ўручаны рэчавыя ўзнагароды.

■ ІІ сакавіка прэзідыум гайнаўскага аддзела БГКТ абмяркоўваў справы, звязаныя з справаздачна-выбарнай канферэнцыяй і з далейшымі напрамкамі працы. На гэтым пасяджэнні прэзідыум аддзела разгледзеў 252 членскія дэкларацыі і прыняў пастанову прыняць гэтых людзей у рады БГКТ.

■ 26 сакавіка адбудуцца справаздачна - выбарныя канферэнцыі аддзелаў у Гайнаўцы і Саколцы.

■ Моладзь многіх вёсак рыхтуецца зараз да ўдзелу ў конкурсе тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам. У паасобных аддзелах адбудзецца ён у канцы красавіка, а фінальны агляд у Беластоку — у першай палавіне мая. (мх)


*Кіраўнік прадпрыемства бетонных вырабаў у Орлі Юрый Ёдла пры механічным сіце, якое ён вынайшоў.* *Фота — Я. Цялушэцкі*

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

Працоўная біяграфія Юрыя Ёдлы — кіраўніка прадпрыемства бетонных вырабаў у Орлі Бельскага павету — гэта няспынныя творчыя пошукі і іх удалыя здзяйсненні на практыцы.

А пачалася яна так.

Было гэта бадай у 1958 годзе. Працаваў тады Ю. Ёдла ў арлянскай кафлярні. Штодзень бачыў ён, як рабочыя шлямуюць гліну. Цяжкая і шкодная для здароўя людзей праца. Смаліць сонца, ці пячэ мароз, дзьме пранізваючы вецер ці цярусіць надакучлівы дождж — працаваць трэба: сыравіна мусіць паступаць у кафлярню. І тады ў Ю. Ёдлы ўпершыню зарадзілася пытанне: «Як?». Яно не адступала, прыходзіла вечарамі ў хатняй цішы, а нават ноччу не давала спаць. Раніцай ён зноў падыходзіў да працуючых людзей, глядзеў, думаў. І з'явілася ідэя механічнага сіта, што ліквідавала б цяжкую працу людзей. Паўстала дзесяткі рысункаў, вылічэнняў і эканамічных разлікаў, якія паказвалі — сіта дасць прадпрыемству звыш 200 тысяч злотых ашчаднасці ў год.

— Але маю прапанову тагачасная дырэкцыя ў Бельску сустрэла ў штыкі. І гаварыць нават не давалася, каб збудаваць сіта і выпрабаваць яго, — успамінае Ю. Ёдла. — Прыйшлося мне самому і з уласных матэрыялаў выканаць яго. Колькі я затраціў сваіх грошай і свайго вольнага часу — сёння цяжка ўжо спамятаць. Сіта ўсё ж рушыла, аблягчыла працу людзям, прынесла прадпрыемству ў Орлі спадзяваную ашчаднасць. Вынаходніцтва распаўсюдзілі на іншых прадпрыемствах Беластоцкага ваяводства з вялікімі эканамічнымі выгадамі.

## У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ

Неўзабаве ён пераходзіць на пасаду кіраўніка прадпрыемства бетонных вырабаў. Беластоцкая дырэкцыя аб'яднання гэтых прадпрыемстваў аднеслася больш прыхільна да рацыяналізатарскіх пошукаў Юрыя Ёдлы.

Народная мудрасць кажа: «Разумны звёзд з неба не хапае». І Ю. Ёдла не лунаў у нязбытачных фантастычных праектах, ён удасканальваў тыя механізмы, на якіх штодзённа працавалі рабочыя, і клапаціўся пра эканамічныя выгады прадпрыемства. Ён увёў малыя пераносныя столікі да вібравання бетонных вырабаў. Столікі аблегчылі працу рабочых, занятых пры фармаван-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## СВЕТ

### РАЗЛАЖЭННЕ АРМІІ

Ніколі разлажэнне арміі сайгонскага рэжыму не прымала такога размаху, як у мінулым, 1971 годзе. Нежаданне салдат удзельнічаць у аперацыях па «ўціхамірванню» ў Паўднёвым В'етнаме, у агрэсіі ў Лаосе і Камбоджы знайшло сваё адлюстраванне ў 2.730 выпадках калектыўнай адмовы розных падраздзяленняў ад выканання загадаў камандавання.

Мецяжы ў арміі ўзнікалі амаль няспынна і ўсюды. У ходзе гэтых выступленняў было выведзена са строю каля 5 тыс. амерыканцаў і ваеннаслужачых сайгонскага рэжыму, накіраваных на падаўленне салдацкіх хваляванняў. Масавы характар набыло дэзерцірства з радоў сайгонскага воінства. Каля 148 тысяч салдат уцякло з арміі ў 1971 годзе, у тым ліку поўнасцю два батальёны, 39 рот, 422 узводы. Значная частка ваеннаслужачых марыянетачнай арміі далучылася да НУСВ, яны прынеслі з сабой больш як 2.000 адзінак рознай зброі.

### КІТАЙСКА-АНГЛІЙСКІЯ АДНОСІНЫ

У Пекіне апублікавана сумеснае кітайска-англійскае камюніке, у якім гаворыцца, што ўрады Кітая і Англіі вырашылі ўзвесці цяперашніх даверанных у справах сваіх краін у ранг паслоў.

Пры гэтым урад Англіі прызнаў, што Тайвань з'яўляецца адной з правінцый КНР, і вырашыў скасаваць сваё афіцыйнае прадстаўніцтва на Тайване.

### ВЫСТУПЛЕННЕ І. ГАНДЗІ

«Наш абавязак — працягваць барацьбу з рэлігійна-абшчыннай рэакцыяй, якая хоць і разгромлена ўшчэнт на цяперашніх выбарах, але ўсё яшчэ з'яўляецца пагрозай нацыянальнаму адзінству краіны», — заявіла нядаўна прэм'ер-міністр Індыі Індзіра Гандзі, выступаючы на пасяджэнні выканкома парламенцкай фракцыі Індыйскага нацыянальнага кангрэса. Індзіра Гандзі запэўніла дэпутатаў у тым, што ўрад уважліва вывучыць пытанне аб дзейнасці сіл рэлігійна-абшчыннай рэакцыі, якія наносяць шкоду нацыянальным інтарэсам краіны. Лідэр кіруючай партыі заклікала таксама да хутчэйшага ажыццяўлення сацыяльна-эканамічных рэформ, намечаных Індыйскім нацыянальным кангрэсам.

### ЗАКЛІК ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

Рад членаў англійскага парламента — лейбарыстаў выступілі з заклікам расшырыць кампанію супраць ядзернага ўзбраення. Яны ўказваюць на небяспеку, якую тоіць у сабе ваенная палітыка кансерватыўнага ўрада для краіны.

### ПАРЛАМЕНЦКІЯ ГРУПЫ ДРУЖБЫ

У Народнай палаце ГДР створаны яшчэ чатыры парламенцкія групы дружбы: ГДР — Бельгія, ГДР — Данія, ГДР — Індыя і ГДР — Лацінская Амерыка. Цяпер у вышэйшым народным прадстаўніцтве рэспублікі існуюць 14 груп дружбы з парламентарыямі зарубежных краін. (ак)

## БССР

### ЗА МІР!

У Мінску адбылася II Беларуская рэспубліканская канферэнцыя прыхільнікаў міру. З дакладамі выступілі:

— пісьменнік І. П. Мележ, які гаварыў аб актуальных праблемах барацьбы за мір у святле рашэнняў XXIV з'езду КПСС;

— і мастак З. І. Азгур, які расказаў пра актыўны ўдзел у мерапрыемствах Савецкага фонду міру грамадзян БССР.

Канферэнцыя, між іншым, прыняла наступныя рэзалюцыі:

«Свабоду і мір народам Індакітая»,

«Еўропе — трывалы мір».

Адначасова былі выбраны: Беларускі рэспубліканскі камітэт абароны міру, які ўзначаліў І. П. Мележ, і Рэспубліканская камісія садзейнічання фонду міру, якой у далейшым будзе кіраваць народны мастак БССР З. І. Азгур.

### В. БЫКАЎ НА СЦЭНЕ

Магілёўскі тэатр выступіў са спектаклем «Сотнікаў». Гэта сцэнічная апрацоўка вядомай аповесці беларускага сучаснага пісьменніка Васіля Быкава. Аўтарам яе і пастаноўшчыкам спектакля з'яўляецца Ю. Сабалеў.

Прысутны на прапрэм'еры аўтар аповесці сказаў журналістам:

— Галоўнае пытанне, якое мне хацелася ўзняць у аповесці — пытанне выбару: што выбірае чалавек, падышоўшы да свайго трагічнага рубяжа: вернасць абавязку, сябрам, сумленню, прынцыпам ці ўласную шкуру. Гэта ж пытанне хвалюе і тэатр.

Магілёўскі спектакль — першае ўвогуле з'яўленне герояў Быкава на драматычнай сцэне.

### ЮБІЛЕЙ

Народны артыст СССР, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Савецкага Саюза Павел Малчанаў адзначыў знамянальны юбілей у сваёй мастацкай дзейнасці: 50 гадоў на беларускай сцэне. З першых крокаў у Беларускай студыі ў Маскве 1922 года і па сённяшні дзень гэты артыст не выходзіў з беларускай сцэны. Сыграў многа роляў — ад Кутаса ў купалаўскіх «Прымаках» да шэкспіраўскага Гамлета. Яму належыць таксама першае слова ў беларускай сцэнічнай Ленініяне. Ролю Леніна выконваў ён упершыню ў спектаклі «Крамлёўскія куранты» ў 1940 годзе.

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ХЛЕБАРОБАЎ

У калгасе імя Леніна Навагрудскага раёна абавязаліся сабраць у гэтым годзе па 40 цэнтнераў збожжавых, 230 цэнтнераў бульбы і 350 цэнтнераў цукровых буракоў.

У калгасе «Памяць Ільіча» Слуцкага раёна рашылі атрымаць з кожнага гектара па 35 цэнтнераў збожжа, 200 цэнтнераў бульбы і 280 цэнтнераў цукровых буракоў.

У калгасе «17 верасня» Столінскага раёна спаборнічаюць за атрыманне 36-ці цэнтнераў збожжа і 200 цэнтнераў бульбы з гектара.

У іншых калгасах таксама ідзе заўзятае змаганне за высокі ўраджай. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ВЫБАРЫ Ў СЕЙМ ПНР

У нядзелю, 19 сакавіка, у цэлай нашай краіне адбыліся выбары ў Сейм ПНР. Былі гэта 8 выбары ў народнай Польшчы. Больш 22 мільёнаў жыхароў аддало свой голас на кандыдатаў ФАН. Выбары мелі характар усеагульнага адабрэння грамадска-эканамічнай праграмы, намечанай партыяй на VI з'ездзе ПАРП. Атмасфера, у якой адбываліся выбары, найлепш сведчыла аб тым, што цэлае нашае грамадства вырашыла прадаўжаць намаганні ў напрамку павышэння ўзроўню жыцця людзей і далейшага хуткага развіцця нацыянальнай гаспадаркі.

### IV ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

14 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была абмеркавана падрыхтоўка да пленарнага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта. Палітбюро пастанавіла склікаць 27 сакавіка г.г. IV пленум ЦК ПАРП для разглядання асноўных задач і праблем бягучай пяцігодкі. Палітбюро знаёмілася, апрача таго, з інфармацыяй міністра ўнутраных спраў Веслава Ацепкі аб парадку і дысцыпліне ў краіне.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

16 сакавіка г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з навуковымі работнікамі Варшаўскай палітэхнікі, дзе знаёміўся з выстаўкай пад загалоўкам «Варшаўская палітэхніка — нацыянальнай гаспадарцы».

### ПРАМОВА І САКРАТАРА ЦК

16 сакавіка г.г. І сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП Э. Герэк выступаў па радыё і тэлебачанню з прамовак на тэму заканчэння перадвыбарчай кампаніі ў Сейм ПНР.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

17 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім разглядажаны, між іншым, справы адносна ўнутранай міграцыі людзей у гадах 1944—1970, правілы фінансавання сацыяльнай дзейнасці на прадпрыемствах, а таксама прапановы змен у сістэме студэнцкіх практык.

### ЯРМАРКА «ВЯСНА — 72»

Закончылася Пазнанская ярмарка «Вясна — 72». На працягу сямі дзён ярмаркі заключаны гандлёвыя ўмовы аб продажы тавараў на агульную суму 30,2 мільярдаў зл. Найбольш прададзена вопраткі і абуткі.

### МАЧТА ВЫШЫНЁЮ Ў 640 м

Мачта радыёстанцыі вышынёю ў 640 метраў будзе пабудавана ў Канстантынове ў Варшаўскім ваяводстве. Будзе гэта адна з найбольшых будоў у свеце.

### НАЙЛЕПШЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЦА

Найлепшым жывёлагадоўцам з'яўляецца ў нашай краіне селянін Юзэф Ярмужэк, жыхар Любускай зямлі. Вядзе ён 14-гектаровую гаспадарку. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве больш сямі тон мяса, 20 тысяч літраў малака і 12 тон збожжа. Зараз мае ён 13 штук кароў, 35 штук свіней, у тым ліку 5 свінаматак. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

19 сакавіка выбаршчыкі Беласточчыны споўнілі свой грамадскі і патрыятычны абавязак — аддалі свае галасы за кандыдатаў Фронту адзінства народу. Гэтым самым усе мы выразілі поўную падтрымку выбарчай праграмы, праграмы, якая стала надзеяй усіх грамадзян, каму дарагі свой дом, свая краіна, свая Радзіма.

Ужо ад шостай гадзіны раніцы выбарчыя пункты запоўніліся выбаршчыкамі. Паасобку і групамі прыходзілі кіраўнікі прадпрыемстваў і рабочыя са сваімі сем'ямі, моладзь сярэдніх школ часта прыходзіла на выбарчыя пункты арганізаванымі групамі.

Дзень 19 сакавіка стаў днём маніфестацыі народнага адзінства ўсяго нашага грамадства.

### ПАСОЛ СССР НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

15—16 сакавіка на Беласточчыне прабываў пасол СССР у Польшчы Станіслаў Пілатовіч. Разам з ім прыехалі яго жонка Раіса Пілатовіч і аташэ пасольства Сяргей Канюкоў.

Тав. С. Пілатовіч сустрэўся з кіраўніцтвам ваяводскай партарганізацыі і гаспадарамі ваяводства, а затым у суправаджэнні І сакратара ВК партыі З. Куроўскага, старшыні Прэзідыума ВРН З. Спрыхі, сакратара ВК Я. Златажынскага і іншых госць наведаў ФПіЎ — камбінат «Понар—Бял». Моладзь камбіната прывітала гасцей кветкамі, а гаспадары пазнаёмілі пасла з працай фабрыкі. Пасол асабліва цікавіўся навейшымі тэхнічнымі дасягненнямі, а потым адбылася сяброўская сустрэча з кіраўнічым активам камбіната.

С. Пілатовіч агледзеў таксама наш горад, цікавіўся працай жыллёвых спулдзельняў, сустрэўся з ваяводскім актывам ТППР.

У другі дзень прабывання ў нашым ваяводстве С. Пілатовіч, разам з жонкай і аташэ С. Канюковым, у суправаджэнні З. Куроўскага, З. Спрыхі і Я. Златажынскага наведалі Гайнаўку. Там госці сустрэліся з партыйным і грамадскім актывам павету, пазнаёміліся з Гайнаўскім прадпрыемствам драўнінай прамысловасці, склалі кветкі ля помніка мартыралогіі насельніцтву Гайнаўшчыны ў Гайнаўскім музеі рэвалюцыйнага руху.

### У ЧОРНАЙ

У мінулым тыдні І сакратар ВК партыі З. Куроўскі наведаў фабрыку дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай. На сустрэчы з рабочым актывам шмат гаварылася аб разбудоўванні прадпрыемства, аб паляпшэнні сацыяльна-бытавых умоў калектыву, аб павышэнні кваліфікацыі малады рабочых.

### СПРАВЫ НАСТАЎНІКАЎ

13 сакавіка ў Ваяводскім камітэце партыі адбылася нарада, у якой удзельнічалі сакратары прапаганды КП, інспектары асветы, актыў ЗНП і многія дырэктары школ. На нарадзе кіраўнік аддзела асветы і навукі ЦК Р. Язерскі паінфармаваў настаўнікаў у некаторых справах, якія іх асабліва цікавяць. Адной са спраў было павышэнне платы настаўнікам і новай настаўніцкай прагматыкі. У бліжэйшы час Сейм будзе разглядаць справу аб правах і абавязках настаўнікаў. (яч)




**NIEDZIELA, 26.III.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy: „Wiosna 1972". 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Klub Śmiałych. 10.15 Sprawozdawczy magazyn sportowy: m.in. Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów narciarskich w Planicy — Loty narciarskie (Jugosławia). 12.30 Dziennik. 12.45 „Od Opola droga wiedzie" („Z ludowej szkatuły") w wyk. zespołów regionalnych, kapel i gawędziarzy. 13.15 PKF. 13.25 „Przemiany". 13.55 Teatrzyk dla Przedszkolaków: M. Terlikowska — „I co robić z takim leniem?". 14.35 „Wikingowie" — film australijski („Czas i ludzie"). 15.30 „Za linią frontu" (Wietnam) (Klub Sześciu Kontynentów"). 16.10 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi Polonia (Bytom) — Górnik (Zabrze). 17.00 „Piosenka dla Ciebie". 17.50 „Tele-Echo". 18.30 Film muzyczny TVP — premiera miesiąca nr 4 — „Ślad człowieka" (35 rocznica śmierci Karola Swierczewskiego). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Jak to w rodzinie" — film fab. radz. 21.25 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 27.III**

14.50 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 Program dnia. 16.00 „Zwierzyniec". 16.45 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie B: Polska — Japonia. W przerwie ok. 17.25 Dziennik. 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Dürrenmatt — „Romulus Wielki". 21.30 „Wielcy znani i nieznani" — „Polski Prometeusz" (Ignacy Łukasiewicz) — film dok. 22.15 Dziennik.

**WTOREK, 28.III.**

10.00 „Wkrótce nadejdzie wiosna" — film fab. radz. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: reportaż z lecznicy weterynaryjnej. 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.40 Program publicystyczny. 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wkrótce nadejdzie wiosna" — film fab. radz. 21.25 „O Telewizji"— program film. 21.55 „Wiatrowiersze" — kompozycja muzyczna J. Łuciuka do tekstów Wł. Broniewskiego. 22.10 Dziennik.

**SRODA, 29.III.**

10.00 „Przez dziewięć mostów" — film TVP. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Polska dzielnicowa". 13.40 „Wybieramy zawód". 14.50 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 Program dnia. 16.00 Dla młodych widzów: „Kino z komentarzem". 16.45 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie B: Polska — Rumunia. W przerwie ok. 17.25 Dziennik. 18.15 „Sylwetki X Muzy" — Irena Karel. 18.40 „Własny dom" — program ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Przez dziewięć mostów" — film TVP. 21.10 „Światowid". 21.40 PKF. 21.50 „Artyści, których podziwiamy" — Stanisław Szymański. 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**CZWARTEK, 30.III.**

9.00 Dla młodych widzów: „Kraina wiecznej młodości" — film fab. rum. 13.40 i 14.20 Mechanizacja Rolnictwa: „Napęd elektryczny w rolnictwie" cz. I i II. 14.50 i 22.50 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.55 Program dnia. 16.00 „Ekran z bratkiem". 16.45 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie B: Polska — Jugosławia. W przerwie ok. 17.25 Dziennik. 18.15 TV Kurier Olsztyński. 18.35 „Józef Szajna" — rep. film. 19.00 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Na północ od Londynu" — film fab. ang. 21.35 „Chadecka opozycja" — program dok. 22.05 Gra Barbara Strzelecka. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK, 31.III.**

9.00 Dla młodych widzów: „Przygoda na wagarach" — film fab. NRD. 10.15 „Wyrównany rachunek" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 Recital organowy Józefa Serafina. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Sport, turystyka, wypoczynek". 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wyrównany rachunek" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 20.30 „Kraj". 21.10 Estrada Literacka: F. Villon — „Wielki testament". 22.00 „Muzyka za drutami". 22.30 Dziennik.

**SOBOTA, 1.IV.**

9.00 Dla dzieci: „Chłopcy z fantazją" — film fab. radz. 10.15 „I dalej będę śpiewać" — film fab. ang. 15.20 Program dnia. 15.25 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.00 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: St. Grochowiak — „Bestia i piękna". 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: B. Winawer — „R. H. inżynier". 21.20 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.45 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie B: Polska — USA (III tercja). 22.30 „I dalej będę śpiewać" — film fab. ang.




**PIĄTEK, 24 marca**

7.25 Nowiny. 7.40 Koncert. Transmisja z Kremlowskiego Pałacu Zjazdów. 8.30 Film animowany. 9.00 Czterej pancerni i pies. 18 i 19 serie. 11.30 Koncert Chóru Swiesznikowa. 12.05 Horyzont. 13.05 Nowiny. 14.10 Program dnia. 15.15 Turniej TV. 16.00 Panorama nowin. 16.20 Reportaż z Grodzieńszczyzny. 16.40 Drogą walki. 17.00 Koncert. 19.00 Czas. 19.30 TV teatr miniatur. 21.00 Koncert zespołów ludowych.

**SOBOTA, 25 marca**

7.00 Program dnia. 7.30 Nowiny. 7.45 Szkatułka muzyczna. 8.00 Program młodzieżowy. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.05 Almanach TV. 10.20 Dla wsi. 11.05 Czterej pancerni i pies. 20 seria. 12.50 Film animowany. 13.10 Program międzynarodowy. 13.40 Spotkania muzyczne. 14.40 Film fab. 16.00 Nowiny. 16.20 USA. 17.00 KWZ-72. 19.00 Czas. 19.30 Wieczór twórczy. M. Janszyna. 21.00 Koncert artystów białoruskich. 21.30 Loty narciarskie. Transmisja z Jugosławii.

**NIEDZIELA, 26 marca**

7.00 Program dnia. 7.15 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 9.00 Turniej TV. 10.15 Muzyka Azerbejdżanu, Armenii i Gruzji. 10.55 Nowiny. 11.00 Czterej pancerni i pies. 21 seria. 12.15 Sportlandia. 13.15 Filmy animowane. 14.15 TV uniwersytet ludowy. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 Film fab. 17.30 Wieczór autorski Roberta Rozdżestwieńskiego. 20.35 Program sportowy. Loty narciarskie i zawody pływackie. 21.50 Nowiny.

СЛЕДАМ ГУРТКОЎ БГКТ




Вёска велізарная, здаецца, бясконца цягнецца ўздоўж бельскай шашы. Дзве старэнькія царкоўкі, многа новых «аднасямейных» двухэтажных дамоў, многа вакон з сінімі аканіцамі і разьбой, як карунка. 218 гаспадарак, 50 тэлевізараў у вёсцы.

Вёска была адной з першых, дзе амаль адразу як арганізавалася БГКТ, паўстаў гурток таварыства і пачалася культурная праца рыбалаўскага драмгуртка. Першым яго арганізатарам і кіраўніком была настаўніца Аляксандра Панасюк, няспынны дагэтуль актывіст БГКТ. 12, а мо і 13 год мінула ад тых беларускіх пачаткаў у вёсцы Рыбалы. Усе гады праца ішла добра, нават вельмі добра. Рыбалаўскі драмгурток (потым пад кіраўніцтвам Сяргея Філіпюка, а потым Валі Андрэюк) стаў слаўным, адным з найлепшых драмгурткоў БГКТ. Сістэматычнасць і ўпор людзей спрыялі росту. Асягнулі яны сваёй працай высокага мастацкага і ідэйнага ўзроўню гуртка. Адважна браліся за п'есы нялёгкія. Некаторыя іхнія пастаноўкі выраслі па-над драмгурток. Гэта быў ужо самадзейны тэатр.

Многа п'ес паставіў рыбалаўскі драмгурток, усіх не ўспомніш нават, хоць шкада, што няма гуртковай хронікі, якая б кароткімі запісамі расказвала пра слаўную гісторыю аднаго калектыву ў гісторыі таварыства.

Традыцыяй гуртка ў Рыбалах сталі п'есы на ваенныя і партызанскія тэмы. Гурток гэты быццам маўкліва абавязаўся спецыялізавацца ў гэтай тэме. Людзі, якім прадстаўляў гурток плёны свайёй працы, прымалі такія п'есы вельмі ўдзячна. Такім чынам рыбалаўскі драмгурток знайшоў сваё месца ў дзейнасці БГКТ.

Прабач, рыбалаўскі чытач, што так расказваю пра ваш гурток у мінулым часе, які быў поўны поспехаў. Абсалютна не дапускаю думкі, каб далей так не было.

А ўсё ж у глыбі сэрца засела малое зерне песімізму. А сталася гэта так: у сувязі з набліжэннем тэрміну агляду беларускіх драмгурткоў пытала я пра рыбалаўскі, што ясна выступіць, ды з якой п'есай. І пачула ў адказ, што, на жаль, у Рыбалах у гэтым годзе «нешта не выходзіць». Што такое «нешта?»

Мая размова з Сяргеем Філіпюком, вядомым грамадскім дзеячом, паправіла мой настрой.

— Шкада было б, каб адзін з найлепшых нашых драмгурткоў адпаў.

Сяргей Філіпюк: — Я і сам адчуваю патрэбу, каб і тут гэтая дзейнасць прадаўжалася. І ўсе людзі адчуваюць, што будзе сорамна, калі не зоймемся п'есай у гэтым годзе. Ды... каб крыху рэпертуару дастаць, каб там у вас у таварыстве больш пра гэта думалі.

І так дайшлі мы да адной з набалелых спраў у нашай культурнай дзейнасці: рэпертуару, ці хутчэй яго недахопу. Выдаецца, што на VII з'ездзе БГКТ справа гэтая павінна быць пастаўлена.

Іншае, аб чым гаварылася ў Рыбалах, гэта арганізатар, яго роля ў асяроддзі. Несумненна, арганізатар патрэбен. Нехта павінен сказаць першыя словы: давайце збярэмся і паставім п'есу. Гэтак пачынаецца праца.

Сяргей Філіпюк бачыць выхад ажыўлення іхняга драмгуртка, дзякуючы ўключэнню ў арганізатарскую працу доўгагадовых здольных маладых людзей з драмгуртка, як Віктар Вішнеўскі. «Мог бы ён павесці гурток, ды лепш ад мяне», — кажа Сяргей. Або Ніна Ігнацюк — таксама здольны арганізатар.

— У вёсцы дзейнічае многа арганізацый. Дзе шукаць граніц, чым хто займаецца? — пытаю.

— Вёска мае цяпер масу розных праблем і гаспадарчых, і культурных. І калі чалавек адчувае патрэбу змены, патрапіць папулярызаваць добрую ідэю і ўключыцца ў яе, — роля такога чалавека вялікая. Сельскагаспадарчы гурток на вёсцы, ці пажарная каманда, яны займаюць належнае месца ў жыцці вёскі.

А гурток БГКТ? Напрыклад, у Рыбалах уся культурная праца, якая тут вялася за апошнія гады, звязана з гуртком БГКТ. Гэта не толькі драмгурток, але і сустрэчы, і фільмы.

У нас у апошні час ажывіўся гурток ЗМВ, але ён заняўся сельскагаспадарчым навучаннем, а гуртку БГКТ засталася праца культурная. Ёсць асобы, якія належаць і да аднаго, і да другога. Добра, толькі трэба выкарыстаць умовы, якія стварае і адна, і другая арганізацыя, каб выходзіла лепш. У гуртку БГКТ у нас пераважае моладзь. Мо таму, што мы не выходзілі з шырэйшымі прапановамі, каб уключаць і старэйшых. Трэба гэта прадумаць.

— А як жа будзе з драмгуртком і новай п'есай?

— Моладзь тут здольная і працаваць хоча. З ёю працуецца лёгка. Ды яны і самі адчуваюць патрэбу прадаўжаць нашу традыцыю працы. Думаю, што прымем удзел у аглядзе ў 1972 годзе.

*Вера Лейчук*

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні Клуба міжнароднай кнігі і друку ў Беластоку, вул. Сянкевіча 3 (уваход ад Рынку Касцюшкі) можна набыць наступныя выданні на беларускай мове:

Купала Янка, Жыццё і творчасць, альбом, Мінск 1959, цана 21 зл. 40 гр.

Вельмі каштоўнае і неабходнае ў кожнай школе, дзе выступае навучанне беларускай мове, выданне. Настаўнікі знойдуць у ім багаты матэрыял з жыцця і творчасці Янкі Купалы, ілюстраваны найбольш паказальнымі творамі паэта, рэпрадукцыі прац беларускіх мастакоў, прысвечаных Я. Купалу, і яго творчасці, дакументальныя фатаздымкі.

Альбом павінен апынуцца ў кожнай школе, дзе вывучаецца беларуская мова.

Маўр Янка, Збор твораў у двух тамах, Мінск 1960, цана абодвух тамоў 24 зл.

У гэтае двухтомнае выданне ўвайшлі лепшыя творы з багатай творчасці самага выдатнага беларускага дзіцячага пісьменніка. Яно павінна быць абавязковай пазіцыяй у бібліятэках тых школ, дзе выступае навучанне беларускай мове. Рэкамендуем яго таксама і дарослым, бо такія аповесці Я. Маўра, як «Палескія рабінзоны», «У краіне райскай птушкі» і іншыя, даставяць ім пры чытанні вялікую прыемнасць.

Чарнышэвіч Аркадзь, «Праз зімы і вёсны», Мінск 1960, стар. 196, цана 4 зл. 50 гр.

Зборнік апавяданняў сучаснага беларускага пісьменніка старэйшага пакалення змяшчае ў сабе творы, прысвечаныя праблемам сям'і, быту, кахання і ўзаемаадносін паміж моладдзю і дарослымі.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы.

Адамчык Веслаў, «Млечны шлях», Мінск 1960, стар. 146, цана 2 зл. 60 гр.

Гэта зборнік апавяданняў сучаснага беларускага літаратара сярэдняга пакалення. У кнізе пераважаюць творы, прысвечаныя жыццю сялян у заходніх абласцях БССР.

Зборнік рэкамендуем усім любіцелям беларускай прозы. (мг)



# Перадавы сельгасгурток і яго старшыня

Сельскагаспадарчы гурток у Залуках (Беластоцкі павет) заснаваўся ў 1961 годзе. Зараз налічвае ён 58 членаў. Восем гадоў нязменна старшынствуе ў ім Уладзіслаў Паплаўскі. Ён таксама і дыспетчар сельгасгуртка. Залукаўскі сельгасгурток столькі ж год, колькі старшынствуе ў ім Уладзіслаў Паплаўскі, не меў ніякіх страт. У мінулым годзе атрымаў ён, напрыклад, больш сарака тысяч злотых даходу. Зараз у сельгасгуртку ёсць 7 трактараў з камплектамі падвесных машын, 27 сеўнікаў, 6 снопавязалак, 6 бульбакапалак, 5 касілак і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Усе яны маюць належны догляд. Клапоцяцца аб іх самі трактарысты, а ўжо найбольш старшыня Паплаўскі. Усе сельскагаспадарчыя машыны перахоўваюцца ў спецыяльна прыстасаваных кааператыўных будынках. У гэтым годзе залукаўскія сельгасгуртко́ўцы намераны купіць дадаткова два трактары і камбайн.

Добра наладжваецца супрацоўніцтва праўлення сельгасгуртка з трактарыстамі. Як сам старшыня сельгасгуртка сцвярджае, дзеецца гэта таму, што праўленне высока цэніць добрую працу трактарыстаў і паважае іх. Варта адзначыць, што некаторыя трактарысты маюць ужо за сабою па 6, а нават 9 гадоў працы ў сельгасгуртку.

У бягучым годзе сельгасгуртко́ўцы з Залук намераны ўпершыню заняцца гадоўляй свіней. Патрэбныя для гэтага аборы маюць яны ў Якубіне, дзе раней быў панскі маёнтак. Сельгасгуртко́ўцы карыстаюцца таксама зямельнымі ўгоддзямі ПФЗ. Узялі дагэтуль 60 гектараў і намераны загаспадарыць іх яшчэ больш. Вясною на ПФЗ-аўскіх угоддзях пасеюць яны авёс.

Сельгасгурток актыўна супрацоўнічае з мясцовым гуртком вясковых гаспадынь (КГВ), які тут налічвае каля 20 асоб. Пры дапамозе «кулка» залукаўскія жанчыны арганізавалі ў сябе кулінарныя курсы, а зараз намераны пачаць супольную гадоўлю куранят, вырошчваць агародніну ў інспектах, а таксама садзіць малавядомую яшчэ на вёсцы агародніну і г.д. Праўленне сельгасгуртка арганізавала для жыхароў Залук і Навасёлкаў бясплатныя канцэрты Лодзінскай эстрады. Прыходзіць яно з дапамогай мясцовай школе, а таксама пры арганізацыі вясковых дзяцінцаў. У красавіку г.г. у Залуках пачнецца пракладка хаднікоў, пры якой абавязаліся грамадскім чынам працаваць усе жыхары вёскі, а ў тым ліку і ўсе члены сельгасгуртка. (ЦЯ)

## Святліца ў Саколцы



*Ля акенца кухні малодшыя вучні школы.*

*Малюнкі вучняў упрыгожваюць памяшканне святліцы.*

Пачатковая школа № 4 у Саколцы з'яўляецца навейшым школьным памяшканнем у горадзе. Вучацца тут дзеці не толькі з горада, але і навакольных сёлаў. Педагагічны калектыў школы ўводзіць шматлікія эксперыменты ў галіне навучання і выхавання маладога пакалення.

*Хто запярэчыць, што не смачны абед?* *Фота А. Карпюк*

Адной з праяў працы школы з'яўляецца святліца, дзе ўведзена і харчаванне. Святліца мае кухню, якая варыць «поўныя» абеды дзецям. Памяшканне святліцы невялікае, а карыстаецца ёю аж 180 вучняў. Апрача харчавання, дзеці тут робяць урокі, займаюцца светліцовымі гульнямі. Тутэйшых дзяцей асабліва цікавяць малюнкі. Вучні, выкарыстоўваючы розную тэхніку, робяць гэтыя малюнкі з усяго: красак, воску, мыла і інш. І бадай таму гэтыя працы вельмі арыгінальныя і прыгожыя.

Вялікая карысць з таго і бацькам, якія ведаюць, што іх дзеці ў той час, калі яны працуюць, маюць добрую апеку. У святліцы працуе трое кваліфікаваных настаўнікаў. (ак)

## КЛУБЫ „РУХ"—72

Прадпрыемства «Рух» у Беластоку супольна з многімі ўстановамі і арганізацыямі арганізуе шматлікія карысныя мерапрыемствы ў сваіх клубах на вёсцы і ў горадзе.

Супольна з Таварыствам усеагульных ведаў (ТВП) вядзе яно ў 50 вясковых клубах акцыю «Моладзь», сустрэчы з аўтарамі цікавых кніг і акцыю «З музыкай на ты». Апошнім часам ТВП арганізавала два семінары для настаўнікаў, якія актыўна ўключаюцца ў працу ў клубах «Рух». Супольна з Таварыствам распаўсюджвання савецкай культуры (ТККС) прадпрыемства «Рух» арганізуе сустрэчы з юрыстамі і лектарамі ТККС. Аб'яднанне інжынераў і тэхнікаў сельскай гаспадаркі (СІТР) арганізуе ў клубах лекцыі на тэмы аграрнай культуры, агратэхнікі і г.д. Таварыства польска - савецкай дружбы (ТППР) арганізуе ў клубах «Рух» конкурсы на тэму «Што ведаеш аб СССР?», конкурсы на савецкую песню, сустрэчы з прадстаўнікамі савецкай асветы, культуры і мастацтва, савецкімі воінамі, пісьменнікамі, журналістамі і г.д. Кіраўніцтва «Рух» фінансава дапамагае ў арганізацыі конкурсаў на беларускую песню, на найлепшы аматарскі драмгурток, у арганізацыі аўтарскіх сустрэч і прапагандаванне беларускага фальклору ў клубах. Супольна з маладзёжнымі арганізацыямі прадпрыемства «Рух» арганізуе сустрэчы з цікавымі людзьмі, прапагандуе акцыю «Аб палітыцы — вёсцы — моладзі», а таксама намерана арганізаваць ваяводскі агляд аматарскіх мастацкіх калектываў. Супольна з Таварыствам тэатральнай культуры прадпрыемства «Рух» арганізуе сустрэчы з акцёрамі, тэатральныя спектаклі і г.д. Прадпрыемства «Рух» мае зараз свае сталыя конкурсы, як на найлепшы клуб «Рух», «Сям'я ў клубе», «Бліжэй тэатра» і іншыя. Варта адзначыць, што ў дзейнасць у клубах «Рух» прадпрыемства «Рух» уключае перш за ўсё настаўнікаў. Зараз штогод арганізуе для іх у час летніх канікулаў семінары ў розных гарадах Польшчы. У гэтым годзе семінар для настаўнікаў арганізаваны ў Вроцлаве. Для ўдзельнікаў семінара прадбачана таксама экскурсія ў Дрэздэн (ГДР). (ЦЯ)

БЕЛАРУСКІ ТЭАТР




# Марыя Захарэвіч

У невялікай вёсцы, што на беразе аднаго з цудоўных Нарачанскіх азёр вырасла Марыся Захарэвіч. Пасляваенная вёска жыла цяжка. Бацькі занятыя з раніцы да вечару не многа ўвагі ўдзялялі дачцы. Яна гадзінамі разглядала сінь азёр, хадзіла па навакольных лясах і шукала адказы на тысячы пытанняў.

Яшчэ падсвядома, інтуітыўна Марыся шукала, у чым сіла прыгожага. Яна працягвала шукаць адказы на свае пытанні і ў інстытуце, і ў тэатры, і на шумлівых вуліцах Мінска.

Гавораць, каб многа ведаць, трэба многа перажыць. Перажыванняў, вядома, не заплануеш. Але на долю Марысі іх выпала нямала. Не вельмі цікавымі аказаліся першыя ролі, не так, як хацелася, складалася асабістае жыццё, а тут яшчэ нешчаслівы выпадак.

Калі Марыся Захарэвіч стала ўжо актрысай тэатра імя Янкі Купалы, здарылася бяда: цяжка захварэў бацька. Марыся паехала да яго і не даехала: аўтамабільная катастрофа. Пяць пераломаў, цалкавітая нерухомасць. Доўгія месяцы ў ложку, доўгія месяцы трывог і роздумаў.

Марыся ўспомніла, як яна трапіла ў тэатральны. Бацькі марылі, каб яна паступіла «ў самы галоўны інстытут рэспублікі» — універсітэт, і яна, выконваючы іх волю, накіравалася ў Мінск. Але па дарозе раздумала. Зрэшты, ёй даўно ўжо не давалі спакою словы настаўніка нямецкай мовы — кіраўніка школьнай мастацкай самадзейнасці: «Ты павінна стаць актрысай, павінна, павінна!..»

Было боязна адной у чужым горадзе, але дакументы яна ўсё ж аднесла ў тэатральны. Адзіноцтва прайшло хутка. Побач аказаліся таварышы, сябры, настаўнікі.

Лежачы ў бальніцы, яна ўспамінала тых, хто памагаў ёй шукаць, хто ўмацоўваў яе веру ў прыгожае. Яна адчувала ў сябе патрэбнасць зноў выйсці на сцэну, загаварыць з людзьмі на ўвесь голас.

Марысю лячылі добрыя лекары, але, напэўна, не меншую ролю ў яе выздараўленні адыграла гарачае жаданне вярнуцца да любімай справы...

Час ідзе хутка. Ужо маленькі сын стаў вялікім, у школу пайшоў. Ужо мама пераехала ў Мінск, цяпер ёсць каму за сынам глядзець. А то цэлы дзень у тэатры — раніцай рэпетыцыі, вечарам спектаклі... Ужо сыграла яна Людмілу ў п'есе Л. Зорына «Сябры і гады» і Галену ў спектаклі Шэкспіра «Канец — справе вянец». Але ўсё яшчэ яна чакала.

Калі тэатр прыняў да пастаноўкі інсцэніроўку рамана І. Мележа «Людзі на балоце», Марыся Захарэвіч атрымала ролю Ганны — цікавую, вялікую, цэнтральную. Але... яна другая выканаўца гэтай ролі, а першай была Ліля Давідовіч — таксама маладая актрыса, сакурсніца па інстытуце. І ўсё-такі Марыся ўзялася за працу, не думаючы аб гэтым. Ёй вельмі хацелася сыграць Ганну. Лёс гэтай беларускай дзяўчыны, якая шукала і знайшла свой шлях у жыцці, быў здзіўляюча блізкі і зразумелы актрысе. Яна сыграла па-свойму.

Гэтай працы Марысі былі прысвечаны спецыяльныя рэцэнзіі ў газетах. Аб актрысе загаварылі, як аб цікавым вялікім драматычным таленце.

Пайшлі наступныя ўдачы. Наступіла пара сталасці. Ужо М. Захарэвіч многа ведае, але, напэўна, не ўсё. І ў гэтым шчасце актрысы.

Яна па-ранейшаму шукае.

*Іраіда Пісьменная*



*Заслужаная артыстка БССР Марыя Захарэвіч.*



*Марыя Захарэвіч у ролі Лізы ў спектаклі В. Розава «Традыцыйны збор».*



*Марыя Захарэвіч (справа) сярод маладых акцёраў Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## КНЭДЛІ

### КНЭДЛІ З БУЛЬБЫ

Прапорцыя на чатыры асобы: 1/2 кг бульбы, лыжачка маргарыну, 1 цэлае яечка, 1 жаўток, крыху цёртага жоўтага сыра, соль, перац, мука, крыху мускатнага арэха.

На кнэдлі трэба выбіраць бульбу мучыстую, больш-менш аднолькавай велічыні. Памыць яе і зварыць у лупінах у гарачай пасоленай вадзе. Бульбу абабраць, яшчэ гарачую прапусціць праз мясарубку, дадаць соль, перац, цёрты мускатны арэх і сыр, тлушч, яечка і жаўток. Дакладна вымяшаць, выкладаць на стальніцу, пасыпаную мукой, дадаць мукі столькі, каб складала яна 1/3 колькасці бульбы, замясіць цеста. Зрабіць не вельмі тоўсты валік з цеста, наразаць яго кавалкамі шырынёю ў 2—3 см. Кнэдлі класці ў гарачую, крыху падсоленую ваду і варыць ад моманту, калі вада закіпіць, мінут 15.

Такія кнэдлі можна падаваць з маслам: тады трэба вымяшаць іх з растопленым маслам, палажыць на патэльні, абсыпаць цёртым сырам і запячы ў духоўцы на працягу 15—20 мінут.

Можна падаваць бульбяныя кнэдлі і з таматным соусам. Тады кладзем іх на патэльню, змазаную тлушчам, паліваем густым таматным соусам, пасыпаем зверху цёртай булкай, змешанай з цёртым сырам і запякаем у духоўцы.

Падаюць гэткія кнэдлі і з кменам. Адразу ж як толькі кнэдлі зварацца, іх абсмажваюць у тлушчы, мачаюць у сцертым сыры, змешаным з кменам і ўстаўляюць на 5 мінут у вельмі гарачую духоўку. Такія кнэдлі можна падаць з салатам з кіслай капусты.

### КНЭДЛІ З СЕЛЕРАЎ

3 ababраныя невялікія селеры зварыць у лупінах, ababраць і прапусціць праз машынку разам з 10-ццю зваранымі і ababранымі бульбінамі. Да атрыманай масы дадаць 2 яечкі, соль і каля шклянкі мукі, так каб цеста было даволі густое. На стальніцы, пасыпанай мукой, раскатаць валік, разразаць яго на роўныя невялікія кавалкі, фармаваць у руках шарыкі і класці ў гарачы тлушч. Смажыць прыблізна так, як пончыкі. Падаваць з салатам з чырвонай капусты.

### ЧЭШСКІЯ КНЭДЛІ

На гэтыя кнэдлі трэба ўзяць наступныя прадукты: 10 дэкаў сала, 1 цыбуліну, 10 дэкаў нятлустай каўбасы, 1 белы батон, соль, перац, каля 13 дэкаў мукі, 2 яечкі і паўшклянкі малака.

Дробна нарэзанае сала растапіць, дадаць нарэзаную дробна булку і цыбуліну, усё разам крыху падсмажыць. Пасля гэтага дадаць вельмі дробна нарэзаную каўбасу, муку, яечкі і малако, вымяшаць лыжкай атрыманае цеста і пакінуць яго так на 10 мінут. Пасля фармаваць круглыя кнэдлі і варыць у гарачай пасоленай вадзе. Падаюць такія кнэдлі да гародніны ці салатаў, а таксама да супоў.

*Гаспадыня*




ЯЎГЕН БЕРАЗНЯК

# "Я" — "ГОЛАС"

## МАЁР ВІХР РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ І СВАЮ РАЗВЕДКУ

### ДАНЯСЕННІ ПРАЎДЗІВАГА, МОЛНІІ

Былы камандуючы фронтам «Паўночная Украіна» генерал-фельдмаршал Модэль пераведзен на Заходні фронт. На яго месца прызначан начальнік штаба фронту генерал Гарпер. Начальнік І-га аддзела — падпалкоўнік Стэфанус. Начальнік контрразведкі — маёр Гамер'ер. Начальнік аператыўнага аддзела — палкоўнік генштаба Ксаландэр. Штаб расквatараван у Кракаве, вуліца Пілсудскага, вугал алеі Міцкевіча. Завербаваны работнікі ваеннай контрразведкі фронту Курт Отман (мянушка — Праўдзівы), рускі — Комахаў Уладзімір (мянушка — Молнія). Даныя ў далейшым будуць перапраўляцца Гразой. Граза сустракаецца з імі. Голас мае перапіску. Ёсць падставы іх даным верыць. Голас, Груша».

Данясенні, якія паступалі ад Гразы, Музыканта, поўнасцю пацвярджалі дакладнасць інфармацыі гітлераўскага контрразведчыка (адсюль і мянушка Праўдзівы).

«24.ІІ. Паўлаву. На № 29. Праўдзівы, Молнія. Работнікі контрразведкі немцаў. Праўдзівы дапамог Комару ўцячы з-пад арышту. Комар далажыла мне, што яны вельмі занепакоены лёсам пасля вайны і гатовы зрабіць усё, што трэба, для сваёй рэабілітацыі. Я напісаў ім пісьмо і даручыў Гразе весці перагаворы з імі. Скончылася тым, што яны далі згоду працаваць. Цяпер мы атрымліваем ад іх інфармацыю, па меры магчымасці пераправяраем даныя. Яны просяць мяне ў выпадку ўцёкаў немцаў, каб я забраў іх да сябе, Голас».

Неадкладна прыйшоў адказ Цэнтра.

«Голасу. Запатрабуйце ад работнікаў КРА сумленнай работы на нас, што абумоўлівае дараванне. Няхай складуць спісы ўсіх вядомых ім агентаў гестапа. Паўлаў».

Праўдзівы цэлы тыдзень працаваў над спісамі. Шэраг агентаў нам і нашым польскім сябрам удалося знішчыць напярэдадні вызвалення Кракава. У студзені — маі 1945 года нашы чэкісты і супрацоўнікі польскай контрразведкі абясшкодзілі вялікую групу шпіёнаў, дыверсантаў. Спісы, так добра і сумленна складзеныя Праўдзівым, і тут спатрэбіліся.

Цяпер у гітлераўскім абверы, у адным з яго падраздзяленняў, у нас былі пастаянныя вочы і вушы.

Падраздзяленне Праўдзівага знаходзілася ў Кшэшавіцы, але абслугоўвала Ценчынск, Рыбне, Чарніхуў, Пшэткавіцэ і падпарадкоўвалася непасрэдна свайму ўпраўленню ў Кракаве. Праўдзівы, як гэта было з Ольгай, дапытваў арыштаваных, а часам сам вёў следства.

Отман выдатна выконваў новыя заданні. Ад яго мы атрымлівалі каштоўную інфармацыю.

1 лістапада мы перадалі Цэнтру:

«Данясенне Праўдзівага. У верасні ў Кракаве арыштаван радыст Кнашкецкі, цяпер дае Цэнтру дэзу. У раёне Кракава пеленгацыя шукае рацыю, якой перададзены звесткі аб асабовым саставе штаба паўночна-украінскага фронту. Шыфр гэтай станцыі расшыфраван КРА».

На другі дзень я атрамаў маланку Цэнтра:

«Голасу. Удакладніце прозвішча арыштаванага ў Кракаве радыста, падрабязнасці арышту. Прыкметы радыста. Паўлаў».

Праўдзівы выканаў і гэта заданне. Дэза зламанага Кнашкецкага ўжо не магла нікога дэзінфармаваць.

### МЫ СТАНОВІМСЯ САМАСТОЙНЫМІ

У ноч на 19 кастрычніка мы пайшлі ад Тадэка. Нельга было больш злоўжываць гасціннасцю польскіх сяброў, падвяргаць іх пастаяннай рызыцы. Немцы, ганяючыся за нашай рацыяй, маглі ў любы момант засячы размяшчэнне атрада.

У трох-чатырох кіламетрах ад Казлуўкі чакаем груз з Цэнтра. Для самастойных дзеянняў патрэбны людзі, зброя. Мы размясціліся ў трох доміках, размешчаных на схіле гары, ля самага ўзлеску.

20 кастрычніка на досвітку мяне разбудзіў вартавы. Далажыў, што набліжаецца група ўзброеных людзей. Мы падрыхтаваліся да нечаканай сустрэчы. Шчыльны туман доўга не даваў магчымасці разгледзець людзей. Спачатку мы пачулі хрыплае дыханне, кашаль, падобны на брэх і толькі на адлегласці шасці-сямі метраў убачылі на старых пілотках зорачкі, чырвоныя стужкі. Да нас прыбылі ўзброеныя польскімі вінтоўкамі, трафейнымі аўтаматамі — «вальтэрамі» байцы і афіцэры Чырвонай Арміі, ваеннапалонныя, якія ўцяклі з нямецкіх лагераў смерці.

Я загадаў накарміць людзей, размясціць на адпачынак. Запрасіў у сваю зямлянку старшага групы — Яўсея Блізнякова.

Я склаў запытанні на Блізнякова і двух лётчыкаў: яны сцвярджалі, што выкінуліся з палаючых самалётаў, прабіраюцца да сваіх.

Паслаў радыёграму:

«27.10. Паўлаву. Створана баявая разведгрупа. 22 чалавекі. Рускія, большасць

## Модная гутарка

— Прывітанне, даражэнькая Маргарыта!
— Ужо два тыдні, як я перастала быць ёю. Маргарыты выйшлі з моды.
— Хто ж ты цяпер такая?
— Марго. А як цябе зараз клічуць?
— Як заўсёды, Ірына.
— У апошні час такіх імён не носяць. Буду клікаць цябе Ірэн.
— Згодна. Што ў цябе новага?
— Віншуй мяне, Ірэн, я выйшла замуж.
— Зноў?!!
— Зараз здзіўленне не ў модзе. Выйшла і ўсё. Ужо трэці дзень.
— Удала?
— Не зусім.
— П'е?
— Горш. Голіцца. А цяпер у модзе барада. Да таго ж, у яго на галаве чупрына. Шыкарная чупрына.
— А гэта дрэнна?
— Вельмі. У апошні час нават паэты абыходзяцца без чупрыны. Усе набылі сабе лысіны.
— А ў жанчын, якія прычоскі ў модзе?
— Ніякіх прычосак! Толькі космы.
— А які колер валасоў?
— Яшчэ тыдні паўтара будуць у модзе рыжыя. А потым, кажуць, пяройдуць на аранжавы.
— А вочы?
— Што вочы?
— Якога колеру?
— Без колеру. Трэба вакол вачэй наляпіць шмат фарбаў, каб колер вачэй быў зусім не бачны.
— Ох... — дзя... куй!..
— Ты кашляеш, Ірэн?
— Так, крыху.
— Зараз такі кашаль не ў модзе. Кашляй гучней, па-сучаснаму. Падыдзі да ўрача...
— Была.
— Трэба звярнуцца да самага моднага. І патрабаваць, каб ён табе прапісаў самыя модныя лекі. Але не такія, каб пацець. Помні, пацець зараз не модна.
— Ой, Марго, як усё гэта цяжка!
— Нічога не зробіш. Хочаш быць прывабнай — модніча́й.

*Г. Рыклін*

— *Паверце! Гэта сапраўдны пажар, пакіньце залу!*

# НІЎКА

**Талавалошка**

Драўляны куб памаляваны з усіх бакоў на зялёны колер, а затым распілаваны ўздоўж і ўпоперак на 27 кубікаў. Акрэсліце, колькі кубікаў акажацца непамаляванымі, колькі кубікаў будзе памалявана толькі з аднаго боку, колькі іх акажацца памаляванымі з двух бакоў, у колькіх кубікаў будуць памаляваны тры бакі.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

### У ШКОЛЕ

Настаўнік: «Утвары будучы час ад слова пазяхаць!»
Вучань: «Я сплю, ты спіш, ён спіць, мы спім...»

### ФРАНЦЫЯ

Жан заходзіць да гандляра сабакамі, выбірае самага лепшага, плаціць і, ужо збіраючыся выходзіць, пытае:
— Вы павінны ведаць, сабакі гэтай пароды верныя гаспадару?
— Яшчэ б мне не ведаць, — адказвае гандляр. — Я гэтага сабаку прадаю ўжо трэці раз.

*Гумар з барадою*

### ПАН І ПАРАБАК

Увесну, якраз у самае разводдзе, парабак украў у пана каня. Склікаў пан усіх сялян, каб судзіць парабка ўсім сялом, бо да суддзі не мог трапіць — дарогі не было.
Выбралі сяляне старшым на судзе аднаго беднага мужыка. Вось і пачаў ён суд. Звяртаецца да парабка:
— Скажы, Сцяпан, толькі праўду, ты ўкраў каня?..
— Ну, я...
— А скажы, зневажаў цябе пан ці не? Праўду толькі...
— Што за пытанне? Амаль штодня.
— А як карміў цябе пан? — пытаецца мужык.
— Дрэнна, вельмі дрэнна, — адказаў парабак.
— А колькі гадоў ты ў пана працаваў?
— Больш дзесяці.
— А добра ён табе плаціў?
— Толькі харчы даваў.
Тут мужык падняўся і сказаў, звяртаючыся да сялян:
— Грамадзяне-сяляне, калі парабак украдзе яшчэ збрую з возам, дык усё роўна поўнасцю ён не разлічыцца з панам.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Тарасевіч, вучаніцы шостага класа пачатковай школы, змяшчаем рускую народную песню:*

## Ой полна, полна коробушка

«Ой, полна, полна коробушка,
Есть и ситцы, и парча.
Пожалей, моя зазнобушка,
Молодецкого плеча!

Выди, выди в рожь высокую, —
Там до ночки погожу,
А завижу черноокую —
Все товары разложу.

Цены сам платил не малые —
Не торгуйся, не скупись!
Подставляй-ка губы алые,
Ближе к милому садись!»

Вот и пала ночь туманная,
Ждёт удалый молодец.
Чу, идёт! — пришла желанная,
Продаёт товар купец.

Катя бережно торгуется,
Всё боится передать;
Парень с девицей целуется,
Просит цены набавлять.

Знает только ночь глубокая,
Как поладили они.
Распрямись ты, рожь высокая,
Тайну свято сохрани!

— *Таварыш дырэктар, па якіх пытаннях мы маглі б крытыкаваць вас у прафсаюзнай справаздачы?..*

### ЧАРАЎНІК

Хваліўся адзін хлапец, што супраць яго быццам ніводная дзяўчына не выстаіць.
— Дык як жа гэта? — пытаюць яго.
— А так: стане, прыгледзіцца, плюне ды далей ідзе.

### ПАКАЗАЎ

— Янка, чаму Міхасёк плача? Што ты яму зрабіў?
— Нічога, мама. Я толькі паказаў, як ён павінен быў з'есці сваё пірожнае, не замазаўшыся.

— *Пара на лёд, штрафны час дайно закончыўся.*

### НАВОШТА

На вакзале вісіць гадзіннік. Падыходзіць мужчына, дастае з кішэні аловак, запісную кніжку і запісвае гадзіну.
— Навошта? — здзіўляецца нейкі цікавы пасажыр.
— Ды ў мяне няма гадзінніка, а мяне ўвесь час пытаюць, якая гадзіна.

### ПРАВІЛА

— У мяне такое правіла: я ніколі не пазычаю сваім сябрам. Ад гэтага церпіць сяброўства.
— У такім выпадку вы смела можаце пазычыць мне пару соцень злотых: мы з вамі ніколі не былі сябрамі.

### ХВАРОБА

Да доктара прыходзіць жанчына і скардзіцца:
— Мой муж псіхічнахворы. Я магу гаварыць цэлымі гадзінамі, а калі спытаю ў яго, пра што ішла гаворка, дык высвятляецца, што ён наогул мяне не слухаў.
— О, дарагая, гэта не хвароба, а талент!

*Каламбуры*

### НЕШЧАСЛІВЫ МЯДЗВЕДЗЬ

Пытае ў бяроз, у ліп,
Чаму ў бяду, не ў мёд, уліп.

### МАДЭРН

Калі накруціць разбяры,
То паспрабуй ты, разбяры.

### ВЯСНОЙ

Ну што ж, і мне прыйшоў
капец! —
Прамовіў бульбіне капец.

### ПЕРАВАГА

Пяро маленькае, а лоўка
Заўжды пацельвала з алоўка.

### ПАРАДА ПАЧЫНАЮЧАМУ РЫБАЛОВУ

У сетку трапяць акуні —
Ты у раку іх акуні.
А затрапечуцца ліні —
Тады вады на іх ліні.

### ПАДНАЧАЛЕНЫ

Ён знаў: яго святая справа
Прысесці злева, а не справа.

*Язэп Тачыла*

## Курёзы

### КАМЕДЫЯНТЫ

Больш як 570 дырэктараў буйных прадпрыемстваў краін «Агульнага рынку» папрасілі адзін французскі вылічальны цэнтр, які займаецца падагульненнем сацыялагічных апытанняў, стварыць «камп'ютэр-партрэт сярэднята еўрапейскага шэфа фірмы». Вылічальнік, між іншым, выдаў: «Усе гэтыя паны робяць уражанне абаяльных і нават мяккасардэчных людзей». У другім месцы гаворыцца: «Як правіла, кожны з іх мае надрэнны акторскі талент».

### СУПЕРМАН

Суддзя Хабард прад'явіў Фрэду Оуну з Мічыгана абвінавачанне з чатырох пунктаў:
1. Оун апляціў кошт заручальнага пярсцёнка для сваёй чацвёртай жонкі незабяспечаным чэкам;
2. Оун «забыўся» развесціся з трэцяй жонкай, а да таго — з другой.
3. Оун украў машыну першай жонкі, каб паехаць рэгістраваць шлюб з чацвёртай;
4. Наогул Оун не Фрэд, а Джэмс — яго брат.

### ВАЖКІ ДОВАД

Якія каманды першымі правядуць футбольны матч на Месяцы? Кіраўніцтва тургэцкага клуба «Гюнес спорт» не сумняваецца, што адной з іх будзе каманда клуба. А як жа інакш? На іх нацыянальным флагу намаляван паўмесяц, на эмблеме клуба нават два, г.зн. поўны Месяц. Што і гаварыць, довад важкі...

### РЭКОРД

Своеасаблівы рэкорд належыць амерыканскай газеце Нью-Йорк таймс». Кожны нядзельны выпуск гэтай газеты складаецца з 568 старонак і важыць каля 2 кілаграмаў. Пераважная частка старонак занята рэкламай.

Смяе нам!

*Прамахнуўся: трапіў туды, куды цэліў.*